

ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Authorized by EUCOM Hqs Civil Affairs Division, 1. January 1951, Nr. UNDP 225
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Circulation: 3500 copies. Sponsor: IRO
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 74 Нядзеля 4 лістапада 1951 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 5

# Ад Рэдакцыі й Выдавецтва „Бацькаущчыны"

**Усім нашым чытачом, аднадумнікам і прыхільнікам, як і ўсяму нацыянальна думаючаму беларускаму грамадзянству на эміграцыі прыносім радасную вестку, што «Бацькаўшчына», пачынаючы з гэтага нумару, будзе выходзіць рэгулярна раз у тыдзень. Газэта будзе ў далейшым наяўляцца датаю за нядзелю кажнага тыдня.**

**Пераход з двутыднёвіка на тыднёвік быў дасягнуты дзякуючы поўнаму зразуменьню значнае часткі нашага эміграцыйнага грамадзянства вялізарнае ролі беларускага друкаванага слова для нашага нацыянальна-вызвольнага змаганьня, для вялікай справы ўратаваньня нашых суродзічаў, раськінутых сярод чужых людзей па ўсіх кутках вольнага дэмакратычнага сьвету, ад нацыянальнае сьмерці. Цяпер-жа перад гэтаю часткаю грамадзянства, што належна падтрымала нашую газэту й прычынілася да ейнага росту, стаіць новае заданьне: спрычыніцца да таго, каб пастаўлены раней намі лёзунг — «НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА ПРАЦУЮЧАГА АБО ІНШЫМ СПОСАБАМ ЗАРАБЛЯЮЧАГА БЕЛАРУСА, ЯКІ-Б ЧЫТАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ» ЗАДАРМА, ЯК І НААГУЛ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА СЬВЯДОМАГА БЕЛАРУСА, ЯКІ-Б ЯЕ НЯ ЧЫТАЎ ЗУСІМ!» — быў як найхутчэй поўнасьцю зрэалізаваны.**

**Рэдакцыя за ўвесь папярэдні час рабіла вялікія намаганьні, каб «Бацькаўшчына» ў меру нашых сілаў і магчымасьцяў як найшырэй заспакойвала духовыя патрэбы беларускага чытача, памагала яму разьвязаць найбольш важныя праблемы сяньняшняга беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, прыносіла яму аўтэнтычныя весткі з паняволенай Бацькаўшчыны й умацняла ягоную веру ў яе хуткае вызваленьне. Такім чынам апрача заданьняў чыста інфармацыйнага характару, нашай працы прысьвечвалі й выхаваўча-ідэалягічныя мэты — разьвіваць і паглыбляць беларускі патрыятызм, узбройваць нашае эміграцыйнае грамадзянства высокімі ідэйнымі якасьцямі, выраблящь зялезны гарт і ахвярнасьць у вялікім змаганьні за вызваленьне нашае дарагое Бацькаўшчыны.**

**З другога боку мы паставілі сабе за мэту, каб «Бацькаўшчына», служачы сьвятому ідэалу вызваленьня й незалежнасьці Беларусі, ня зыйшла на бездарожжа групавасьці й вузкай партыйнасьці, але была газэтай срога апартыйнай і сталася органам усяго беларускага нацыянальна думаючага грамадзянства на эміграцыі. Імкнучыся да дасягненьня гэтае мэты, мы аб'ектыўна адзначалі запраўдныя заслугі навет нашых палітычных праціўнікаў, як і войстра выступалі супраць адмоўных бакоў дзейнасьці, як і бязьдзейнасьці, некаторых асяродзьдзяў нашых аднадумнікаў.**

**У гэтым, і толькі ў гэтым кірунку будзе й далей весьціся нашая дзейнасьць. А ад нашага грамадзянства, ад ягонага належнага маральнага й матарыяльнага падтрыманьня, будзе поўнасьцю залежыць, ці пастаўленыя перад сабою заданьні Рэдакцыя зможа выканаць.**

**У пэрыяд нязвычайна адказны й абнадзейваючы, калі нашая нацыянальная праблема знаходзіцца напярэдадні ейнага разьвязаньня, і ў пэрыяд ня менш крытычны, калі некаторыя асяродзьдзі нашае эміграцыі, ад якіх маем права найбольшага чакаць удзелу ў нашай нацыянальна-вызвольнай дзейнасьці, загразьлі ў вузкім матарыялізьме й бязьдзейнасьці, «Бацькаўшчына» бярэ на сябе вельмі амбітнае й ня менш адказнае заданьне: ўратаваць гонар нашае нацыянальнае прэсы на эміграцыі ў той час, калі нашая прэса ў іншых краінах расьсяленьня беларусаў знаходзіцца ў жахлівым стане мізэрнай вэгэтацыі.**

**Выходзячы з гэтага, мы й апэлюем да ўсяго здаровага беларускага эміграцыйнага грамадзянства прыйсьці зь як найбольшаю маральнаю й матарыяльнаю помаччу ў нашай адказнай працы.**

# Чэрчыль пры уладзе

24 кастрычніка адбыліся выбары ў ангельскі парлямант, за перамогу ў якіх вялі зацятае змаганьне дзьве найвялікшыя ангельскія партыі — кансэрватыстыя на чале з Чэрчылем, што ў папярэдняй кадэнцыі парляманту былі ў вапазыцыі, і ляйбурыстыя або партыя працы на чале з Этлі, што кіравала Вялікабрытаніяй за апошніх шэсьць год. Ня гледзячы на вялікія няўдачы ўраду партыі працы, як і вялікія эканамічныя цяжкасьці ў краіне за ейнага кіраўніцтва, перамога Чэрчыля аказалася вельмі нязначнай. Перадвыбарная агітацыя ляйбурыстых, якая намагалася запалохаць антываенна настроенае грамадзянства, што прыход да ўлады Чэрчыля павялічвае небясьпеку новае вайны, відаць, не асталася бяз уплыву.

Не бяручы пад увагу дзьвюх выбарных акругаў, зь якіх няма яшчэ вынікаў выбараў, і аднэй акругі, дзе ў сувязі із сьмерцю ляйбурыстаўскага кандыдата выбары адбудуцца ў пачатку гэтага месяца, партыя Чэрчыла здабыла 320 мандатаў, а партыя Этлі — 294. Значыцца Чэрчыль перамог толькі 26 мандатамі. Калі-ж узяць пад увагу 6 мандатаў, што здабылі лібэралы, і 2 мандаты, здабытыя ірляндзкімі нацыяналістымі, Чэрчыль дыспануе абсалютнай бальшынёй толькі на 18 мандатаў. Калі-ж ходзіць пра колькасьць здабытых галасоў, дык партыя працы здабыла іх 13.893.618 супраць 13.696.686, што здабылі кансэрватыстыя. Значыцца партыя працы атрымала на 201.932 галасы болей, чымсьці кансэрватыстыя. Перамога Чэрчыля была такім чынам толькі справаю прыпадку, бо згодна ангельскай выбарнай ардынацыі лішнія галасы, здабытыя на аднаго кандыдата ў дадзенай выбарнай акрузе, не дадаюцца да агульнай колькасьці здабытых партыяй галасоў, але прападаюць.

Ужо ў суботу 27 кастрычніка габінэт Этлі падаўся ў вадстаўку й 77-летні Чэрчыль прыступіў да стварэньня новага ўраду. Апрача прэм'ерства, ён абняў становішча, падобна як падчас другой сусьветнай вайны, міністра абароны.

Вынікі ангельскіх выбараў найлепш схарактарызаваў орган кансэрватыстых Дэйлі Тэлеграф», які іх назваў «перамогай, але ня трыумфам кансэрватыстых», і «няўдачай, але не ўпадкам ляйбурыстых».

У сувязі зь нязначнаю перавагаю Чэрчыля ў палітычных колах Лёндану ўважаюць, што новы ўрад ня зможа правесьці грунтоўных зьменаў у нутранай палітыцы Ангельшчыны, бо будзе змушаны паважна лічыцца із становішчам, [illegible]уць ня роўнай яму апазыцыі. Затое агульна спадзяюцца станоўкай й выразнай палітыкі замежнай, зарукай чаго зьяўляецца сама асоба Чэрчыля.

Не падлягае найменшаму сумліву, што Чэрчыль будзе зь зялезнай пасьлядоўнасьцю й станоўчасьцю праводзіць палітыку міру шляхам разбудоўваньня сілы Вялікабрытаніі. Таму на тэмп збраеньняў і павялічэньня абароназдольнасьці краіны будзе зьвернутая бясспрэчна цяпер большая ўвага. Таксама зьяўляецца [illegible]цай што пэўным, што ўрад Чэрчыля [illegible]дзе больш станоўча падтрымліваць міжнародную палітыку ЗША, чымсьці ўрад папярэдні. Што тычыцца палітыкі Лёндану ў дачыненьні да Пэрсыі й Эгіпту, то Чэрчыль, як і Этлі, ня будзе склонны распачынаць каляніяльнай вайны, як і ня здасьць так лёгка жыцьцёвых пазыцыяў Ангельшчыны на Блізкім Усходзе. Што датычыцца трэйцяй праблемы — эўрапэйскай, то Чэрчыль, як гарачы прыхільнік, а ў некаторых выпадак і ініцыятар задзіночаньня Эўропы, будзе актыўна супрацоўнічаць зь іншымі эўрапэйскімі краінамі, перадусім з Францыяй, у кірунку павялічэньня эўрапэйскай магутнасьці й эўрапэйскага задзіночаньня пры выдатным удзеле Ангельшчыны. З гледзішча на гэта, як на павялічэньне абароннай гатоўнасьці перад загрозаю агрэсыі, будзе ён бясспрэчна старонькікам прывярненьня поўнага сувэрэнітэту Нямеччыны й ейнага збройнага ўдзелу ў вабаронных прыгатаваньнях Эўропы.

У Амэрыцы, Францыі, Нямеччыне й ЗША прыход Чэрчыля да ўлады быў спатканы з пачуцьцём вялікага задаваленьня.

(-іч)

# Некалькі слоу перасьцярогі

Створаны пяцьцю расейскімі палітычнымі партыямі Савет Вызваленьня Народаў Расеі, — на думку ягоных закладчыкаў — мае стацца супольным палітычным цэнтрам народаў, паняволеных бальшавізмам. Ягонаю аснаўною мэтаю мае быць актыўнае бескампрамісовае змаганьне з бальшавіцкім рэжымам у СССР аж да поўнае перамогі над ім. Такія заданьні накрэсьліваюць Савету й тыя амэрыканскія колы, што патрануюць ягонай акцыі й даюць яму палітычную й матарыяльную помач.

Не падлягае ніякай дыскусыі, што такі каардынацыйны цэнтр зьяўляецца палючай патрэбай дня. Але каб ён поўнасьцю апраўдаў свае мэты й стаўся запраўдным антыбальшавіцкім цэнтрам народаў, здольным скаардынаваць іхную антыбальшавіцкую дзейнасьць і надаць ей выразны кірунак, мусіць быць ён пабудаваны на такіх прынцыпах, якія забясьпечвалі-б поўную раўнапраўнасьць ягоных партнэраў і ні ў чым не нарушалі-б прыродных нацыянальных правоў нерасейскіх народаў. Усе ўдзельнікі Савету мусілі-б у такім выпадку выказаць максымум добрае волі й палітычнае сьпеласьці, каб у вабліччы супольнай небясьпекі раз назаўсёды адкінуць усё тое, што іх дагэтуль дзяліла, а пабудаваць сваю праграму й павесьці сваю практычную дзейнасьць так, каб яна выключала ўсякія пасяганьні адных народаў на нацыянальныя правы й інтарэсы другіх.

Дык прыгледзімся цяпер, ці Савет Вызваленьня Народаў Расеі, які знайходзіцца ў стадыі сваей арганізацыі, адказвае гэтаму асноўнаму пастуляту й ці ў залежнасьці ад гэтага зможа ён стацца такім каардынацыйным антыбальшавіцкім цэнтрам, ці не?

Вось-жа калі ўзяць пад увагу праект ягонай праграмы ў нацыянальным пытаньні, апрацаваны выключна расейцамі, як і сяньняшнія праграмовыя выказваньні на гэтую таму ягоных закладчыкаў — расейскіх палітычных арганізацыяў, дык ня трэба навет быць прафэсыянальным палітыкам, каб пабачыць, што Савет ужо ў сваей арганізацыйнай стадыі мае зусім адваротныя мэты да тых, якія павінны былі-б прысьвечваць ягонай дзейнасьці й легчы ў васнову ягонай арганізацыі.

Нацыянальная праграма Савету ні ў якім выпадку не загарантоўвае прыродных нацыянальных правоў нерасейскіх народаў, што ўваходзяць у склад Савецкага Саюзу, і выключае іхную раўнапраўнасьць як у самым Савеце, гэтак і ў плянах будучага разьвязаньня іхнае нацыянальнае праблемы пасьля перамогі над бальшавізмам.

Ужо сама арганізацыйная структура Савету, у якім расейцы маюць мець столькі месцаў, сколькі ўсе нерасейскія народы ўзятыя разам, а гэтым самым такую-ж колькасьць галасоў, якой будуць дыспанаваць усе разам нерасейскія народы, як ня трэба лепей гаворыць аб гэтым. Няма й ня было ў вапошнім часе ніводнай міжнацыянальнай ці міжнароднай арганізацыі, пачынаючы ад нябожчыцы Лігі Народаў, а канчаючы Арганізацыяй Задзіночаных Нацыяў, дзе-б паасобныя народы былі рэпрэзэнтаваныя колькасьцю дэлэгатаў і галасоў, прапарцыянальнай да колькасьці іхнага насельніцтва. Там міньятурнае навет гаспадарства Люксэмбург мае той самы голас, што й наймагутнейшыя ў сьвеце многамільённыя Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. **Толькі Савет Вызваленьня Народаў Расеі мае быць у гэтым сэнсе адзіным і нідзе сяньня непрактыкаваным унікатам.**

Не пакідае таксама ніякіх ілюзыяў на справядлівае разьвязаньне нацыянальнай праблемы нерасейскіх народаў і нацыянальная праграма Савету, аб якой ужо дастаткова пісалася ў нерасейскай, у тым ліку й беларускай прэсе. Яна, як ведама, пабудаваная так, што, як і арганізацыйная структура Савету, не знаходзіць сабе падобных у сучаснай міжнароднай палітычнай практыцы. Ані Індыя, ані Філіпіны, ані ўсе іншыя каляніяльныя народы, што ў вапошні мамэнт поўнасьцю ўнезалежніліся й пабудавалі свае сувэрэнныя гаспадарствы, не патрабавалі праводзіць ніякіх плебісцытаў, ці яны хочаць належыць да Ангельшчыны або ЗША, ці стацца поўнасьцю самастойнымі. Нацыянальная праграма Савету зусім ня лічыцца із свабодна выяўленай воляй беларускага народу на Першым Усебеларускім Кангрэсе й у Акце 25 Сакавіка, як і з воляю іншых народаў, выказанай такім-жа самым дэмакратычным спосабам. Расейскія эміграцыйныя палітыкі свае надзеі на захаваньне адзінай і непадзельнай Расеі апіраюць на тым, што ўсе нерасейскія народы прайшлі ўжо вялікі працэс русыфікацыі, прымусова і пад крывавым тэрорам праводжанай Сталінскім рэжымам, як і працэс масавых высяленьняў, на месца якіх быў насланы ў вялізарнай колькасьці элемэнт расейскі, што пэрспэктывы на ўтрыманьне гэтых народаў пад расейскай гэгэмоніяй, ня гледзячы навет на ўсякія плебісцыты, цяпер значна большыя, чымсьці ў 1917-18 г.г.

Калі-ж ходзіць пра сяньняшнюю практычную дзейнасьць расейскіх палітычных арганізацыяў — закладчыкаў Савету, дык яна здраджае значна болей рэакцыйных антыдэмакратычных тэндэнцыяў, чымсьці навет сама афіцыяльная праграма Савету. Каб гэта пабачыць, дастаткова абапёрціся на выказваньнях расейскай эміграцыйнай прэсы. Бадай што адназгодна яна цьвердзіць, што ў Савецкім Саюзе, як і ў царскай Расеі, няма й ня было ніякага нацыянальнага паняволеньня нерасейскіх народаў, а наадварот, што іменна самі-ж бальшавікі, творачы саюзныя й аўтаномныя рэспублікі ды нацыянальныя акругі штучна выклікалі і паддзержываюць цяпер нацыянальныя асьпірацыі нерасейскіх народаў зь вялікаю школаю як для гэтых народаў, гэтак і для народу расейскага.

Некаторыя расейскія арганізацыі ўжо сяньня выступаюць супраць навет тэй формы народных плебісцытаў, пад якой яны яшчэ нядаўна падпісаліся, устанаўляючы праект нацыянальнай праграмы Савету. Гэтак, прыкладам, Мельгуноўскі «Саюз Змаганьня за Свабоду Расеі» ў Но. 1 свайго органу «Русский Демократ» высоўвае зусім новую канцэпцыю, што нерасейскія народы змогуць аддзяліцца ад Расеі толькі ў тым выпадку, калі агульнарасейскія надгаспадарстваўскія органы будуць уважаць такі крок за мэтазгодны й карысны для суцэльнага расейскага арганізму. Гэтая канцэпцыя ані чуць не арыгінальная. Яна зьяўляецца жыўцом скап'яванай з афіцыяльнай савецкай інтэрпрэтацыі таго параграфу Сталінскай канстытуцыі, які гаворыць аб праве кажнай саюзнай рэспублікі на выхад із складу СССР. Уся сяньняшняя расейская прэса на эміграцыі шчодра абдзяляе пагардлівымі эпітэтамі «сэпаратыстых», «шавіністых», а навет «фашыстых» усіх тых нерасейцаў, што імкнуцца да гаспадарстваўскай незалежнасьці сваіх народаў, у той час, калі гэтае права за нерасейскімі народамі фармальна вызналі й самі расейцы ў сваей нацыянальнай праграме. Дык ці-ж трэба тады лепшага доваду на тое, што нацыянальная праграма Савету, падобна як і Сталінская канстытуцыя, зьяўляецца толькі хітрым прапагандовым трыкам, пад якім хаваецца зусім адваротны ей зьмест?

Усё гэта гаворыць за тым, што для аўтарытэтных нацыянальных арганіза-

(Заканчэньне на бал. 2)

# За пашырэньне роднае прэсы

Ніхто сяньня ня будзе квэстыянаваць факту, што роля й значэньне прэсы ў грамдзкім жыцьці зьяўляецца вялізарная. Нельга навет уявіць сябе, каб ня толькі народ, як сьвядомая свай этнічнай ці культурнай апрычонасьці цэласьць, але навет і паасобныя слаі грамадзянства, што належаць да дадзенага народу, маглі жыць і нармальна разьвівацца без сваей прэсы.

Прэса ў жыцьці народу адыгрывае падвойную ролю: З аднаго боку яна мае заданьні інфармацыйныя — прыносіць найбольш сьвежыя весткі аб жыцьці народу й цэлага сьвету, аб важнейшых падзеях, што ў сьвеце разыгрываюцца. Незалежна ад гэтага прэса мае перад сабой яшчэ глыбейшыя й больш адказныя заданьні — выхаваўча-ідэйныя. Яна пераконлівасьцю лягічных аргумэнтаў і сілаю пачуцьця крышталізуе людзкі сьветапагляд і культывуе ў народзе адпаведныя ідэі.

Паколькі прэса адыгрывае такую вялікую ролю ў умовах нармальнага жыцьця народу, патолькі ў умовах эміграцыі ейнае значэньне без параўнаньня яшчэ большае, можна сказаць — выключнае. Тут яна, побач із ужо ўспомненымі, мае яшчэ й трэйцюю грамадзкую функцыю. Прэса, як і роднае друкаванае слова наагул, у ўмовах эміграцыйнага жыцьця грамадзянства зьяўляецца бадай што найважнейшым дзейнікам у самаабароне перад небясьпекай нацыянальнай індэфэрэнтнасьці, якая звычайна зьяўляецца няўхільным пачаткам асыміляцыі.

Эміграцыі розных народаў і часоў зьяўляліся заўсёды наражанымі на небясьпеку нацыянальнай асыміляцыі, якая рабіла меншыя або большыя поступы ў залежнасьці ад аб'ектыўных умоваў, як і ад нацыянальнай адпорнасьці дадзенае эміграцыйнае групы. Асыміляцыі найболей спрыяюць звычайна два мамэнты: Адарваньне дадзенае нацыянальнае групы ад роднае глебы — ад усяго таго, чым жыве, да чаго імкнецца й за што змагаецца народ, арганічнаю часткаю якога зьяўляецца дадзеная эміграцыйная група. З другога боку нязвычайна падатныя ўмовы для асыміляцыі стварае факт вялікае расьцярушанасьці эміграцыйных групаў сярод чужых людзей і народаў, да ўмоваў жыцьця й способу думаньня якіх яны з канечнасьці мусяць прыстасоўвацца.

Вось-жа найбольш магутным дзейнікам, які можа задзіночваць расьцярушаных людзей сярод чужой з нацыянальнага гледзішча масы, належацых да іншае нацыянальнасьці, зьяўляецца іхная прэса. Яна ў спэцыфічных умовах эміграцыйнага жыцьця зьяўляецца найлепшым лучнікам паміж людзьмі аднае нацыянальнасьці, яна ўсьцяж прыпамінае ім аб іхнай нацыянальнай супольнасьці, не дае ім забыцца роднае мовы, родных звычаяў і навыкаў, яна выдатна паддзержывае іхнае нацыянальнае самапачуцьцё.

Таму прыходзіцца проста дзівіцца, што спасярод іншых галінаў нашае нацыянальнае дзейнасьці на эміграцыі заўсёды была занядбанай галіна найважнейшая — нашая нацыянальная прэса. І нічым іншым, як нашай недастатковай палітычнай дасьпеласьцю гэтае зьявішча можна вытлумачыць.

Але вялікім задаткам кажнага прагрэсыўнага чалавека, як і нацыянальнай групы, ёсьць тое, што яны маюць здольнасьць ня толькі спасьцерагаць зробленыя імі памылкі, але й іх напраўляць. Такую здольнасьць мусім у сабе вырабіць і мы.

Мы павінны так павесьці нашую нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць унутры нашае эміграцыі, каб усе нашыя суродзічы, незалежна ад іхнага месца жыхарства, пачуваліся сябрамі ўсяе нашае эміграцыйнае масы, а цераз яе — часткаю вялікага беларускага народу. Гэтае пачуцьцё кроўнае сувязі з цэлым беларускім народам мы зможам захаваць і далей разьвіць галоўным чынам пры помачы нашае прэсы.

Таму нашыя палітычныя цэнтры, нашыя грамадзкія арганізацыі ўва ўсіх краінах расьсяленьня беларусаў, увесь наш нацыянальны актыў і ўсе сьвядомыя беларусы павінны зьвярнуць сянь-

(Заканчэньне на бал. 2)

... у Беларусі запраўды няма вугля.

# БАЛЬШАВІКІ АТАКУЮЦЬ БНР

(Заканчэньне, глядзі № 73)

«Апрача ваенных місыяў наведвалі Заходнюю Беларусь і розныя іншыя амэрыканскія місыі. Пад выглядам харчовых місыяў, а таксама місыяў Чырвонага Крыжа па беларускіх гарадох разьяжджалі амэрыканскія афіцэры із спэцыяльнымі інструкцыямі ад кіруючых колаў ЗША й Гувэраўскага Камітэту. Амэрыканскія місыі Чырвонага Крыжа пабываі і ў Менску, Бабруйску й іншых гарадох. Чарговые місыі часта наведвалі Коўню й Горадню, але займаліся тут зусім не харчовымі справамі . . .

У кастрычніку 1919 г. у Коўні адбылася нарада прадстаўнікоў замежных місыяў. Начальнік дыпляматычнай місыі Вялікабрытаніі ў Коўні Б. Уард, начальнік ангельскай ваеннай місыі палкоўнік В. Раван-Робінзон, спэцыяльны прадстаўнік ураду Лейд-Джоржа Грант-Ватсан, прадстаўнікі амэрыканскай ваеннай місыі палкоўнік Гровэ, падпалкоўнік Грын і маёр Рос і францускі палкоўнік Рэбуль разам зь беларускімі контррэвалюцыянэрамі К. Езавітавым і А. Цьвікевічам абмяркоўвалі пытаньне аб стварэньні «беларускага войска».

Скалачаваньнем беларускіх белагвардзейскіх сілаў імпэрыялістыя Антанты займаліся й у іншых раёнах краіны, занятых інтэрвэнтамі. Так у Адэсе, акупаванай у той час французамі, імпэрыялістыя таксама займаліся стварэньнем аддзелаў з уцёкшых туды беларускіх нацыяналістых і ахвіцэраў. У Адэсе была створана «Краёвая Беларуская Улада». Французы далі грошы й прыступілі да стварэньня «Заходняй Арміі», якую меркавалі перакінуць праз Францыю ў Беларусь.

Амэрыканска-ангельскія імпэрыялістыя імкнуліся ня толькі заваяваць беларускія землі, але й духова заняволіць беларускі народ. З гэтай мэтай яны стварылі розныя камітэты па ідэалягічнай апрацоўцы насельніцтва, прадпрыймалі выдаваньне газет, часапісаў.

Антысавецкія арганізацыі ствараліся ня толькі на тэрыторыі Беларусі, але й у самой Амэрыцы. У Чыкаго быў створаны «Чыкаскі Камітэт абароны Беларусі», мэтай якога зьяўляліся шпіянаж і падрыўная дзейнасьць супраць савецкаў улады ў Беларусі. У Нью-Ёрку было зарганізаванае г. зв. Беларускае Прэс-Бюро, якое займалася антысавецкім паклёпам і выпускам газэт і кнігаў для ідэалягічнай апрацоўкі беларускага насельніцтва. Выдавалася спэцыяльная газэта «Беларуская Трыбуна», якая заклікала змагацца супраць савецкай улады ў Беларусі.

Імкнучыся да здушэньня савецкай улады ў нашай краіне й зьняволеньня Беларусі, амэрыканска-ангельскія імпэрыялістыя распрацоўвалі крывавыя пляны па зьнішчэньню савецкіх людзей. Выкананьне гэтых людаедзкіх плянаў заакіянскія драпежнікі ўскладалі на контррэвалюцыйныя сілы ўнутры краіны й на свае собскія войскі, на сваіх прадстаўнікоў . . .»

Далей пачынаецца звычайная бальшавіцкая «тамбула» пахвалаў «геніяльным» Сталіну й Леніну, якія пры падтрыманьні «беларускага народу й усіх народаў СССР разбілі й выгналі амэрыканска-ангельскіх інтэрвэнтаў і ўсе імі твораныя контррэвалюцыйныя войскі» . . . і г. д. Артыкул заканчваецца гэтак:

«Цяпер заправілы Уол-Стрыту будуюць новыя вар'яцкія пляны сусьветнага панаваньня, распальваюць трэйцюю сусьветную вайну». Але, зразумела, і «гэтыя людаедзкія пляны амэрыкана-ангельскіх імпэрыялістых пацерпяць поўны крах. Магутны лягер дэмакратыі й сацыялізму, узначалены вялікім Савецкім Саюзам . . .» і г. д., разаб'е, зразумела, амэрыкана-ангельцаў.

Падпісаў артыкул нейкі С. Ісачэнка.

Прачытаўшы гэты артыкул, узьнікае мімаволі пытаньне: **дзеля чаго было патрэбна бальшавіком ілюстраваць аж так доўгім шэрагам прыкладаў і дакумэнтацыі аб падтрымцы БНР амэрыканцамі, ангельцамі й французамі ў 1917—1920 гадох?** Дзеля якой мэты спатрэбілася **дакумэнтаваць** гэтае супрацоўніцтва афіцыйных гаспадарстваўскіх дзейнікаў Антанты з БНР, якое выдаецца на першы пачатак некарысным, навет небясьпечным для самых бальшавікоў, каб яго папулярызаваць сярод беларускага народу й прыпамінаць яму аб гэтым?

На гэтае пытаньне можа быць толькі адзін адказ, пайменна: **бальшавікі зьяўляюцца ня ў стане схаваць перад беларускім народам факту прабываньня Рады й Ураду БНР сяньня заграніцай і ведаюць таксама аб сымпатыях беларускага народу да БНР. Яны бачаць, што ў беларускім народзе што раз болей узмацняецца вера ў тое, што гэтая Рада БНР у Беларусь вернецца. Іх таксама моцна непакоіць акцыя беларускіх партызнаў, якая апіраецца на лёзунгах БНР. Ня бачачы ніякага сэнсу «хаваць шыла ў мяшку», бальшавікі й «прадэманстравалі» дакумэнтамі «намаганьні» Антанты «з усяе сілы» дапамагчы БНР-аўцам у 1917—1920 г. г. у змаганьні з бальшавікамі за незалежнасьць Беларусі. Раўначасна з гэтым яны намагаюцца паказаць, што з намаганьняў гэных Амэрыкі, Ангельшчыны й Францыі нічога аднак ня выйшла, а таму — лягічна разважаючы — нічога ня выйдзе й цяпер. Выходзячы з гэтага, беларусам няма чаго чакаць і спадзявацца на паварот Рады БНР пры новай падтрымцы Амэрыкі й Англельшчыны. Раз іх тады разбіў яшчэ так слабы савецкі народ, дык тым больш лёгка справіцца цяпер зь імі так «магутны», зіндустрыялізаванны й пашыраны СССР із саюзнымі яму «народнымі дэмакратыямі» . . .**

Вось такія ў сабе хавае мэты цытаваны артыкул «Зьвязды».

Што гэтыя нашыя вывады правільныя, гаворыць нам ня толькі лёгіка разважаньня, але пацьвярджае гэта якчэ й наш берабежчык. Беларусь, кажа ён, варушыцца, чакае вайны й іменна чакае павароту Рады БНР пры падтрыманьні амэрыканцаў і ангельцаў. Вось дзеля чаго быў патрэбны так актуальны для грамадзян БССР артыкул «Зьвязды», каб «разьвеіць» іхныя надзеі й спадзяваньні.

Ці сваей мэты гэты артыкул дапяў? — зьяўляецца больш чымсь сумліўным. Цяжка сабе ўявіць, каб у вачох беларускага селяніна, а тым больш інтэлігента аргумэнты й дакумэнты, прыведзеныя ў «Зьвязьдзе», аб спатканьнях і супрацоўніцтве БНР-аўцаў з амэрыканскімі, ангельскімі й францускімі гаспадарстваўскімі дзейнікамі, ці хоць-бы зацытаваныя лісты й ноты Рады кампраметавалі БНР-аўцаў або кампраметавалі амэрыканцаў, якія, «прадаючы так дорага благія прадукты беларусам», «экспляатавалі» беларускае насельніцтва. Знойдзецца яшчэ шмат тысячаў беларусаў, якія памятаюць, а таму й другім раскажуць, што амэрыканцы не прадавалі, а ў гэных 1917—1920 г. г. дарма раздавалі беларускім людзям як харчы, гэтак і адзежу, прытым шмат лепшай якасьці ад тэй, якую ім «так танна» дае савецкая ўлада.

Прыпамінае нам гэты артыкул яшчэ й тое, што бальшавіцкія акупанты вось ужо 32 гады ніяк ня могуць пазбыцца страху навет «ценю» БНР.

Прыпомніць гэта мо' й некаторым нашым на эміграцыі й змусіць іх задумацца ды зрабіць некаторыя вывады- чаму так зацята й зь дзікай ярасьцю была распачатая ў 1948 г. акцыя супраць Рады й Ураду БНР тут, на чужыне, чаму ставіліся такія настойлівыя дамаганьні яе ліквідацыі, яе разьвязаньня? Хай прыпомняць сабе гэную «тамбулу» крыку, праводжаную тут заграніцай супраць БНР г. зв. далікатна кажучы, «апазыцыянэрамі» й параўняюць іхную акцыю й аргумэнты з аргумэнтамі бальшавіцкай «Зьвязды»!.

**М. В.**

# Саветы гаспадарамі у Пауночнай Карэі

Камісыя Задзіночаных Нацыяў для адбудовы Карэі апрацавала справаздачу аб Паўночнай Карэі, якая будзе прадстаўленая наступнай сэсыі ЗН. Гэтая справаздача зьмяшчае ў сабе між іншым наступныя сьцьверджаньні:

1. Карэйскія «віцэ-міністры», якія ў бальшыні выпадкаў зьяўляюцца савецкімі грамадзянамі, ёсьць фактычнымі кіраўнікамі ў Паўночнай Карэі. Мясцовыя ўрадавыя дзейнікі маюць вельмі агранічанае значэньне.

2. Генэрал Нам-Іль, кіраўнік паўночна-карэянскай дэлегацыі дзеля перамір'я, зьяўляецца адным з найвыдатнейшых «савецкіх карэйцаў».

3. Прэм'ер міністраў Паўночнай Карэі Кіль-Іль-Сунг зьяўляецца ў запраўднасьці маладым афіцэрам савецкай арміі, які прыбраў толькі імя выдатнага карэйскага патрыёты.

4. Свабода слова, прэсы й сабраньняў ў практыцы наагул ня існуе, ня гледзячы на тое, што яна загарантаваная ў канстытуцыі.

5. Школы й унівэрсытэты праводзяць дыскрымінацыйную палітыку супраць хрысьціянства.

6. Большая часьць школьных праграмаў прысьвечана «выпрабляньню сьветапагляду».

7. Няма ніякай свабоды палітычнай дзейнасьці й палітычных пастановаў.

8. Ужо перад выбухам карэйскай вайны роўна два мільёны паўночных карэйцаў уцяклі ў паўдзённую Карэю. А ад пачатку вайны ўцякло далейшых 500.000

# Школьніцтва у БССР

Як даведваемся зь менскай «Зьвязды» за 17 жніваня сёлета, на тэрыторыі БССР ёсьць 29 вышэйшых навучальных установаў, Акадэмія Навук і некалькі навукова-дасьледавальных інстытутаў, 11.280 пачаткавых і сярэдніх школаў, у якіх навучаецца 1 мільён 466 тысяч вучняў. У Беларусі выдаецца 10 рэспубліканскіх, 12 абласных, 10 гарадзкіх, 164 раённыя й 123 палітаддзельскія газэты тыражом звыш аднаго мільёну эгзэмпляраў.

Як школьніцтва гэтак і прэсы колькасьць даволі паважная, бо, як ведама, бальшавікі заўсёды б'юць рэкорд, калі ходзіць пра колькасьць, пра статыстыку ды пра працэнты. Затое з гледзішча на якасьць пабіваюць таксама рэкорды, але толькі ў вадваротным значэньні. Вось-жа тут, калі ходзіць, прыкладам, пра школьніцтва то гэтая статыстыка нічога не гаворыць аб тым, колькі з гэтых школаў беларускіх, а колькі расейскіх? Ды ўрэшце гэта й ня важна, бо з практыкі ведаем, што бальшыня навет беларускіх школаў была перад вайной ужо беларускай толькі паводля назову. бо ўсе прадметы, апрача самой беларускай мовы, зрусыфікаванай да немагчымасьці дасюлешняй бальшавіцкай практыкай, выкладаліся парасейску. Таму ў БССР навет беларуская намінальна школа зьяўляецца адным з найважнейшых сродкаў русыфікацыі нашае моладзі.

# „Бацькаушчыне“

**У жудзь запраўднасьці суровай,**
**У глуш нявер, наканьня боль,**
**Ідзеш ты к нам трапой цярнёвай —**
**Змаганьня сьветач і сымболь,**

**Нясеш палёў любых прасторы,**
**Доброў магутнасьць, вод разгон,**
**У табе надзеі ветлай зоры,**
**Вячовы кліч, набатны звон.**

**З усіх закуткаў, розных шляхаў**
**Нам чуцен твой прызыўны кліч.**
**Пад адным нас лучыш сьцягам,**
**І паліш сэрцаў адзін зьніч.**

**Няхай дрыжаць, няхай пылаюць,**
**Няхай ня гаснуць — без пары,**
**Хай прагнуць, мрояць і жадаюць**
**І ў блізкі верaць сьвет зары . . .**

**27. 10. 1951 П. СЫЧ**



**Д. Чайкоўскі «Ваўкі»**

# Да усіх Прадстауніцтвау „Бацькаушчыны“

**У сувязі зь пераходам на тыднёвік, «Бацькаўшчына» зможа існаваць і далей разьвівацца толькі ў тым выпадку, калі ўсе ейныя чытачы будуць рэгулярна аплачваць намінальную належнасьць за газэту.**

**Таму просім усе нашыя Прадстаўніцтвы энэргічна праводзіць сьцягваньне падпісной платы за «Бацькаўшчыну». Высылаць газэту задарма можна толькі тым нашым суродзічам, што з тых або іншых прычынаў знаходзяцца ўзапраўды ў цяжкім матарыяльным палажэньні. Затое ўсім тым, якія могуць за яе плаціць, а ад якіх ніякім чынам немагчыма спагнаць падпісной платы, просім наагул спыніць высылку газэты.**

**Адначасна зьяўляецца неабходнай справай правесьці ў кажнай краіне расьсяленьня беларусаў спэцыяльную прапагандовую кампанію дзеля прыдбаньня як найшырэйшага кола новых падпішчыкаў.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

зялеза й інш., калі на працягу 150 гадоў іхнай акупацыі Беларусі яны не зрабілі **ніводнай** навукова-дасьледчай разьведкі нутраных багацьцяў Беларусі? Больш таго, на ўсей вялізарнай тэрыторыі Беларусі з 18 мільёнамі насельніцтва да рэвалюцыі 1917 г. **ня было ніводнай вышэйшай школы.** Спробы-ж беларускіх вучоных у кірунку дасьледваньня канчаліся звычайна арыштамі й ссылкай дасьледчыкаў, як гэта было з дырэктарам «Краёва-дасьледчай станцыі» ў Віцебску ў 1905 г. або пазьней з цэлай сэкцыяй Беларускай Акадэміі Навук па архэалягічным дасьледваньні Беларусі ў 1931 г.

Пэўную падставу ў нашым цьверджаньні аб неаб'ектыўнасьці акупанскіх вучоных дае нам хоць-бы яшчэ той факт, што побач гэтых легэндаў аб эканамічнай «убогасьці» Беларусі былі створаны легэнды яшчэ больш кур'ёзныя, як напрыклад, «што беларускі народ ніколі ня меў сваей гаспадарстваўскай незалежнасьці ды што мы наагул не народ, а мова нашая — ня мова». І гэта ў той час, як у іх-жа пад носам у вадным толькі Петраградзе ляжала 556 тысячаў тоўстых пажоўклых томаў з актаў калісь незалежнага беларускага гаспадарства на працягу пяці стагодзьдзяў. Усе-ж гэтыя акты напісаныя беларускай мовай.

Віленскі Цэнтральны Архіў зьмяшчаў некалькі мільёнаў падобных дакумэнтаў, ды амаль у кажным музэі губэрнскіх гарадоў Беларусі заўсёды штосьь заваллялася вымоўна крычачага ня толькі аб тым, што мы мелі даўгімі гадамі-стагодзьдзямі сваё гаспадарства, а й гаспадарства магутнае, слаўнае, Навет у вадным францускім музэі мне давялося наткнуцца на адзін такі дакумэнт, у якім вялікі наш князь Аляксандар І піша сваім гэтманам: «Будзьце моцна на старожы граніцы. Люты наш вораг, цар маскоўскі, зноў злое дзела замышляе».

Пры гэткай багатай, усюды расьсеенай дакумэнтацыі аб нашай калішняй незалежнасьці, ня мог не наткнуцца на яе навет ня прывыклы глыбака капацца якісь вучоны, а, як бачым, гэта ім нічуць не перашкаджала ляпіць легэнды аб нашым народзе, як «ніколі ня маючым» сваей незалежнасьці. Што-ж тады гутарыць аб «вучоных» эканамістых, якія ўжо запраўды не маглі наткнуцца на горы вугля ці іншыя самі празь сябе вылезшыя зь нетраў нашай зямлі багацьці?

## ПРАУДА АБ НАШЫХ ГАСПАДАРСКІХ БАГАЦЬЦЯХ ГАЛОУНЫЯ КРЫНІЦЫ НАШЫХ ДАХОДАУ

### 1. Сельская гаспадарка

Беларускае сяло за царскіх часоў запраўды выглядала вельмі ўбога, а сяньня, як кажнаму ведама, яшчэ горш. Але прычынамі гэтага былі не адсутнасьць прыродна-эканамічных рэсурсаў, а насьледкі сацыяльна-эканамічнай палітыкі акупантаў. Ня дзівецеся таму, калі зараз пачуеце ад мяне, што пэрспэктывы беларускай сельскай гаспадаркі пры нармальных умовах шмат лепшыя, чымсьці на'т пэрспэктывы сельскай гаспадаркі ўкраінскай. Не падумайце, што й я навучыўся хвабрыкаваць легэнды. Зусім не, як аб гэтым зараз пераканаецеся.

Гэтая, прызнаюся, мая тэорыя была апрабаваная адным з найвыдатнейшых украінскіх эканамістых О. Міцюком, прафэсарам Украінскай Гаспадарскай Акадэміі ў Чэхах, які зь першых маіх слоў спачатку быў расьсьмяяўся, але, перагледзіўшы маю працу, згадзіўся потым з маімі вывадамі ў ста працэнтах.

І ўзапраўды, як можа на першы пачатак не паказацца дзіўным такое параўнаньне, бо-ж кажнаму эканамістаму ведмама із статыстыкі, што адзін гэктар украінскай чарназёмнай глебы дае сярэдня ад 70 да 80 пудоў збору збожжа, у той час, як беларускі гэктар даваў 30—40 пудоў. Пры маіх студыях мне адразу кінулася ў вочы, чаму адзін гэктар нямецкай зямлі, якая па свайму геалягічна-хімічнаму складу абсалютна падобная да зямлі беларускай, дае ад 120 да 150 пудоў. А ў той час так навет расхвалены ўкраінскі чарназём дае толькі 70—80 пудоў. Справа аказваецца вось у чым. Каб расьліна дайшла да свайго нармальнага найбольшага разьвіцьця неабходна, каб грунт меў для яе выжывы гэткіх 7 галоўных элемэнтаў: азот, фосфар, калій, кальцый, магнэзый, серку, зялеза й іншыя, менш важныя элемэнты. Калі аднаго ці некалькі з гэтых элемэнтаў не хапае, тады расьліна не даразьвіваецца.

У ўкраінскім чарназёме іх хапала. У беларускай і нямецкай глебе не хапала галоўным чынам трох першых. Немцы, дзякуючы дакладным досьледам прапорцыі недахопу гэных элемэнтаў, пачалі дабаўляць іх рознымі хімічнымі ўгнойваньнямі, у выніку чаго так лёгка дасягнулі гэткай ураджайнасьці. Нямецкае гаспадарства прыйшло свайму селяніну на помач з навуковымі кадрамі агрономаў, лябараторыямі й дастаўкай штучных угнаеньняў.

Беларускі-ж мала пісьменны селянін стараўся папраўляць сваю зямлю, як сам мог, бяз усялякай помачы; зразумела, таму й вынікаў належных дасягнуць ня мог. Адзінае, чаго ён найбольш дапяў, дык гэта ў справе дадаваньня азоту сеяньнем лубіну, на фосфар-жа й калій ён не спрамогся, бо скуль ён ведаў, што гэта за «зьвярына» й пашто яна? Тымчасам у розных частках Беларусі ёсьць цэлыя горы фасфарытных каменьняў, перамяленьне іх на муку дае гэты неабходны нашым землям элемэнт. Затым маем нявычарпальныя запасы торфу, гэтага амаль што гатовага гноіва, а таксама й калію. Немцы, напрыклад, падчас акупацыі Беларусі ў 1914—1919 г.г. эшалон за эшалонам экспэдыявалі ў Нямеччыну нашыя фасфарытныя каменьні й іншыя ўгнойваньні.

Некаторыя нашыя мясцовыя сяляне, выпытаўшы неяк у немцаў, на што й дзеля чаго гэта, пачалі на свой розум ужываць фосфар. Вынікі былі такія, што ў многіх месцах ураджай іх падняўся да 60—70 пудоў зь дзесяціны. Магчыма, што беларускія сяляне, хоцьбы й прымітыўным спосабам, але дайшлі-б яшчэ большых вынікаў, і спосаб гэтага ўгнаеньня шырэй распайсюдзіўся-б на Беларусі, калі-б ня прымусовая калектывізацыя, масавыя вывазы сялян на Сібір не зьнеахвоцілі іх наагул да «чужой» гаспадаркі.

Калі-ж-бы, скажам, будучае беларускае гаспадарства правяло разумную зямельную рэформу ў духу, адпавядуючым псыхіцы нашых сялян, і прыйшло ім з дапамогай навуковымі кадрамі й тэхнікай, — дык няма ніякага сумлеву, што пры працавітасьці нашага сялянства ураджайнасьць беларускай зямлі дайшла-б да нормы нямецкай і перавысіла-б ураджайнасьць украінскую.

А чаму перавысіла-б украінскую? Бо апрача хімічнага складу грунту ў сельскай гаспадарцы гуляе вялізарную ролю яшчэ другі фактар — арашэньне — вада І ў гэтым вось дачыненьні Беларусь стаіць у непараўнальна больш упрывілеяваных умовах, чымсьці Украіна. На Украіне, напрыклад, выпадае на год ападаў каля 350—400 мілімэтраў, у той час, як на Беларусі каля 500—600. Пры чым на Украіне вельмі **нераўнамерна,** найчасьцей у форме залiўных дажджоў, на Беларусі-ж, дзякуючы наяўнасьці мноства рэк, азёраў і лясоў, дажджы рэгулююцца вельмі **раўнамерна.** Дзеля гэтага на Украіне, ня гледзячы на так добры грунт, падняць ураджайнасьць вышэй цяперашняй нормы наўрад ці магчыма, бо таго, чаго якраз Украіне не хапае — дажджу — штучна выклікаць нельга. Амаль рэгулярныя што 7 год засухі на Украіне таксама вельмі балюча б'юць па ейнай сельскай гаспадарцы.

Трэба адцеміць яшчэ адзін мамэнт, які ставіць беларускую сельскую гаспадарку ў выгаднейшыя ўмовы — гэта адносная неперанаселенасьць Беларусі. На Украіне да вайны налічвалася ў сярэднім да 80 чалавек на адзін кв. кілямэтр, у той час, як на Беларусі каля 40 чалавек.

Беларускае гаспадарства такім чынам давёўшы да нармальнага стану ўраджайнасьць сваей зямлі (да 150 пудоў з гэктара) ці хоцьбы на'т у першых гадох да ўзроўня ўраджайнасьці Украіны, дзякуючы меншай на палавіну гушчыні свайго насельніцтва, зможа — прапарцыянальна да насельніцтва — у двойчы больш вывозіць заграніцу хлеба, чымсьці Украіна.

Зрабіў я гэткае параўнаньне з Украінай, зразумела, не дзеля таго, каб «паменшыць» вагу сельскай гаспадаркі нам братня-прыязнага й запраўды багатага краю, а каб параўнаньнем гэтым ярчэй паказаць, якія бліскучыя пэрспэктывы мае нашая сельская гаспадарка, калі яе належна павесьці.

**Інж. М. Абрамчык**

(Працяг у наступным нумары)

